“Дзвінскі ўзгорак” віншуе чытачоў з Калядамі і Новым годам!



# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №18 (52)
СНЕЖАНЬ 2016 ГОДА

ПЕРАСЛЕД

## СУД ПАПЯРЭДЗІЎ ЗА БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ

**У Кастрычніцкім райсудзе Віцебску адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы. Справа была распачатая супраць сябра рады руху «За свабоду» і сойму Партыі БНФ Хрыстафора Жаляпава. Справу разьбіраў судзьдзя Ўладзімер Царыкаў.**

Падзеі, з прычыны якіх супрацоўнік Кастрычніцкага райаддзелу міліцыі Сяргей Вяракса распачаў справу супраць віцебскага актывіста, адбыліся 26 лістапада. На 86-ю гадавіну народзінаў Уладзімера Караткевіча група віцяблян прыйшла да помніка славутаму земляку. Гэта традыцыйная штогадовая завядзёнка — адзначаць дзень народзінаў клясыка беларускай літаратуры ўскладаньнем кветак і чытаньнем вершаў. Хрыстафор Жаляпаў, ідучы да помніка ад сваёй машыны, разгарнуў нацыянальны сьцяг.

У пратаколе, складзеным на актывіста, было напісана, што тым самым ён парушыў парадак правядзеньня масавых акцыяў. Складальніка пратаколу, міліцыянта Сяргея Вяраксу, выклікалі ў суд сьведкам. Ён паказаў, што сачыў за падзеямі каля помніка, седзячы ў аўтамабілі. І што ў ягоныя пляны не ўваходзіла падыйсьці да людзей, папярэдзіць пра недапушчальнасьць іхніх дзеяньняў ды пра верагодную адміністрацыйную адказнасьць.

Да слова, адміністрацыйная справа была распачатая толькі супраць аднаго чалавека — Хрыстафора Жаляпава. Рыхтуючыся да судовага разбору, ён запрасіў у сьведкі яшчэ некалькі чалавек, якія былі зь ім каля помніка Караткевічу 26 лістапада. У тым ліку актывістку аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Алену Шабуню.

Яна засьведчыла, што нічога такога, што падпадае пад вызначэньне «акцыя», каля помніка не было й блізка:

«Людзі прыйшлі хто з кветкамі, хто проста так. А самым першым, падобна, на месца прыбыў міліцыянт Вяракса. Я ў яго й спытала: „Дык, можа, вы і ёсьць арганізатар нейкай акцыі? Чагосьці прыехалі да помніка, чакалі... Чаму ня выйшлі да людзей, не папярэдзілі, калі заўважылі нібыта правапарушэньне?“ На гэтае пытаньне супрацоўнік Кастрычніцкага РАУС так нічога й не адказаў. Падобна, ён знарок чакаў у машыне чагосьці надзвычайнага — ня толькі чытаньня вершаў, а нейкіх выступаў, заклікаў ці нечага падобнага. А не дачакаўшыся, вырашыў прычапіцца хаця б да сьцяга».

На думку самога Хрыстафора Жаляпава, распачатая супраць яго справа не адміністрацыйная, а палітычная:

«Я сказаў суду, што каля помніка Караткевічу не было ні пікету, ні мітынгу, ні сходу — нічога такога, што ў заканадаўстве вызначана як „масавае мерапрыемства“. Значыць, судзяць мяне не за гэта, а за нацыянальны сьцяг. Выглядае менавіта так. Хоць бел-чырвона-белы сьцяг не забаронены, і ўвогуле — якіх толькі сьцягоў і сьцяжкоў у Віцебску не сустрэнеш! Але ж ня судзяць ні за расейскія трыкалёры ў аўто, ні за былыя савецкія сьцягі, ні за сьцягі розных іншых колераў — апроч бел-чырвона-белага!»

Аднак судзьдзя Ўладзімер Царыкаў не прыняў такой аргумэнтацыі. Ён усё адно прызнаў, што Хрыстафор Жаляпаў парушыў заканадаўства — артыкул 23.34 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Праўда, вынес мінімальнае пакараньне, прадугледжанае гэтым артыкулам — адміністрацыйнае папярэджаньне.

**Радыё Свабода**

ЭКАНАМІЧНЫЯ ВОЙНЫ

## УДАР ПОД ДЫХ АННЕ НОРКУС

**Продукты Витебской бройлерной фабрики запретили продавать в России**

Ограничения на поставку в Россию продуктов двух белорусских предприятий введены с 30 ноября, сообщил во вторник Россельхознадзор.

По данным российского ведомства, в адрес Департамента ветеринарного и продовольственного надзора Минсельхозпрода Беларуси было направлено соответствующее письмо.

«В связи с неоднократными нарушениями превышения микробиологических показателей безопасности Россельхознадзор с 30 ноября вводит временные ограничения на поставки в Российскую Федерацию продукции, произведенной предприятиями ООО «Вахавяк Плюс» и ООО «Витебская бройлерная птицефабрика», — говорится в сообщении.

По данным ведомства, были повторно выявлены листерии: в первом случае — в говядине, во втором — в мясе птицы охлажденной.

Кроме того, Россельхознадзор потребовал ввести режим усиленного лабораторного контроля в отношении продукции ООО «Березинский мясокомбинат», ОАО «Лунинецкий молочный завод», ООО «Розовый кит», СЗАО «Серволюкс» филиал «Серволюкс Агро» и ОАО «Смолевичи Бройлер».

По информации Россельхознадзора, в случае продолжения выявления продукции, не соответствующей нормам и требованиям ЕАЭС, будет рассмотрен вопрос о возможном ограничении поставок в РФ продукции СООО «Чизмастер», ОАО «Бабушкина крынка», ОАО «Гомельский белково-жировой комбинат» и ПТУП «Сария».

Напомним, после ареста своего директора Анны Норкус Витебская бройлерная резко сдала. И только сейчас, когда она вновь встала во главе фабрики, начинает подниматься на ноги. Российский рынок для этого был крайне важен. Поэтому принятое Россльхознадзором решение можно считать ударом под дых.

**«Белорусский партизан»**

*Чытайце сайт Віцебскага раёна:*
**http://vicebskreg.by**

КРЫТЫЧНЫ ПАДЫХОД

## КАЛІ НАВЯДУЦЬ ПАРАДАК НА ДАРОГАХ РАЁНА?

**Старшыня аблвыканкама Мікалай Шарстнёў раскрытыкаваў стан дарог Віцебскага раёна. У асаблівай ступені гэта тычылася дарог да вёсак Вымна і Палудзеткі.**

Аляксандр Лапацін выказаў прэтэнзіі, што гэта дарогі цяпер у неналежным стане, грэйдзіраванне праводзіцца нерэгулярна, транспарт з-за выбоін не можа рухацца з нармальнай хуткасцю, а гэта дадатковыя выдаткі для тых жа філіялаў акцыянернага таварыства «Малако», па гэтых дарогах ездзяць і рэйсавыя аўтобусы , перавозяць школьнікаў. Церпяць вялікія нязручнасці і дачнікі.

Мікалай Шарстнёў адзначыў, што ў гэтым напрамку многае робіцца і заўважыў станоўчую дынаміку ў навядзенні парадку ў Віцебскім рэгіёне, надзённасць пытання пацвярджаюць і звароты грамадзян, і званкі на «прамыя лініі».

Кіраўнік абласной вертыкалі пагадзіўся з заяўнікам у тым, што абслугоўваюцца дарогі з жвіровым пакрыццём неналежным чынам. Рашэнне ён бачыць у тым, каб у рамках меркаванага далейшага узбуйнення сельгаспрадпрыемстваў Віцебскага раёна, у выніку чаго іх будзе ўсяго 3-4, зрабіць для гаспадарак хоць бы інфраструктуру. Пралічыць магчымасці, кіламетраж і выпрацаваць пэўны падыход да вырашэння гэтай праблемы ў Вымнянска-Суражскім кірунку даручана кіраўніцтву КУП «Віцебскаблдарбуд».

- У першую чаргу вазьміце на кантроль усе аўтобусныя маршруты. Пачніце з іх і адпрацоўваць далей, зыходзячы з нагрузкі. Пытанне ўзнікла даўно, і яго адным махам ня вырашыць, таму ніякіх канкрэтных даручэнняў сённяне будзе. Паглядзіце, пралічыце, што рэальна можна зрабіць, вызначыцеся з кіламетраж дарог, неабходнымі тыпамі пакрыццяў, а потым з канкрэтнымі прапановамі прыходзьце на размову, - звярнуўся Мікалай Шарстнёў да генеральнага дырэктара «Віцебскаблдарбуд» Уладзіміру Матвееву і спецыялістам адпаведных ведамстваў.

Віцебскі райвыканкам, па словах Мікалая Мікалаевіча, ужо ўзяўся за навядзенне парадку ў гэтым «мядзведжым» куце, вельмі добра, што арганізавалі восенню ў Суражы раённыя "Дажынкі". У наступным годзе работу трэба працягнуць, бо гэта лепшыя ў Віцебскім раёне землі.

**Ян Сведка**

ГОДНЫЯ ПАВОДЗІНЫ

# ЖЫХАРКУ ЎШАНАВАЛІ ЗА ГРАМАДЗЯНСКУЮ МУЖНАСЦЬ

**Жыхарку в. Ананіна Анжэлу Краўцову ўшаноўвалі ў Віцебскім РАУС за садзейнічанне органам унутраных спраў і аказанне дапамогі ў раскрыцці злачынства.**

Яна атрымала падзяку начальніка УУС Віцебскага аблвыканкама Віктара Сянько і матэрыяльнае заахвочванне з рук часова выконваючага абавязкі на пасадзе начальніка Віцебскага райаддзелу ўнутраных спраў Анатоля Марчука.

Уразгарлетаўвёсках Ананіна, Альгова і Андрановіч адбылася серыя крадзяжоў. Зламыснік выносіў з дамоў грамадзян усё, што траплялася пад руку: ад сталовых прыбораў да каштоўных прадметаў.

У той дзень, калі злачынец здзейсніў чарговы налёт у вёсцы Ананіна, Анжэла адправілася за грыбамі. Шпацыруючы па лясным масіве, дзяўчына заўважыла прадмет, які вылучаўся сярод травы і дрэў. Падыйшла бліжэй, разгарнула траву і пабачыла надзіманы матрац. Побач, прыкрытыя кавалкам старой тканіны і травой, ляжалі і іншыя рэчы. У гэты момант, адчуўшы нядобрае, дзяўчына павярнулася і ўбачыла, што за некалькі метраў ад яе стаіць незнаёмец. Суаднесла падзеі і здагадалася, што перад ёй злодзей. Анжэла кінулася бегчы, а выбраўшыся з лесу, накіравалася да праваахоўнікаў.

На той момант, калі яны вярнуліся да месца выяўленых прадметаў, мужчыны і след прастыў, а рэчы былі зноў накрыты травой. Падобныя тайнікі супрацоўнікі праваахоўных органаў выявілі яшчэ ў некалькіх месцах. Нарабаванае зламыснік кідаў прама ў населеным пункце ў суседніх з дамамі хмызняках.

У далейшым у ходзе правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў быў затрыманы раней неаднаразова судзімы Канстанцін (імя зменeнае - заўв. Аўтара), які прызнаўся ў здзяйсненні крадзяжоў. У дачыненні да яго райаддзелам Следчага камітэта было распачата шэсць крымінальных спраў па частцы 2 арт. 205 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Анжэла не сумнявaецца, што паступіла правільна, бо зараз яна можа спакойна пайсці на шпацыр з маленькім сынам, не асцерагаючыся таго, што ў гэты час яе дом стане месцам злачынства.

**Якаў Дрозд**

БЯСПЕЧНЫЯ ПАВОДЗІНЫ

# НОВЫ ГОД ДА НАС ІМЧЫЦЦА...

**Як паведамляе сайт міністэрства па надзвычайных сытуацыях Рэспубліцы Беларусь, навучэнцы Даўжанскай і Мазалаўскай сярэдніх школ Віцебскага раёна, а таксама выхаванцы Вялікалядчанскага дзіцячага дома прынялі ўдзел у мерапрыемствах рэспубліканскай акцыі «Бяспечны Новы год!»**

У ходзе мерапрыемстваў, якія праводзяцца ў агульна-адукацыйных установах у рамках акцыі «Бяспечны Новы год!», Работнікі Віцебскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях нагадалі дзецям пра небяспеку прымянення піратэхнічных вырабаў, аб правілах іх набыцця і выкарыстання, казалі пра асаблівасці ўстаноўкі навагодняй елкі і выкарыстанні электрагірлянды. Не абмінулі ратавальнікі і тэму захавання бяспекі на вадаёмах, правілах паводзін на лёдзе, пры моцных маразах, снегападах. У дадатак да тэарэтычнай часткі навучэнцам былі прадэманстраваны тэматычныя відэафільмы МНС.

А для таго, каб занятк з ратавальнікамі не былі сумнымі і лепш запомніліся, былі праведзены конкурсы і віктарыны, падчас якіх дзеці даведаліся, дзе ўсталёўваецца навагодняя ялінка, якія цацкі можна размясціць на галінах, што рабіць, калі здарыўся пажар, як правільна і хто павінен выкарыстоўваць піратэхнічныя вырабы. Усе ўдзельнікі атрымалі заслужаныя прызы і падарункі.

**Ян Сведка**

РАЗВАГІ АНАЛІТЫКА

# ЛИШИЛ СВОЮ СТРАНУ ПРАКТИЧЕСКИ ВСЕГО

**«Благодаря» Лукашенко Беларусь ничем не отличается от Чувашии или Калмыкии.**

Пресс-служба правителя Беларуси Александра Лукашенко распространила сообщение о его встрече с бывшим украинским коллегой Леонидом Кучмой, представляющим Киев на переговорах в Минской группе. Конечно, это обычное прокольноесвиданиесобменом новогодними подарками и дежурными фразами. Но какое показательное!

Лукашенко и Кучма пришли к власти практически в одно и то же время. Оба эксплуатировали в своей предвыборной кампании тему борьбы с коррупцией во власти и восстановления «порушенных связей» с Россией. Но какое различие в результатах для Украины и Беларуси!

Лукашенко фактически демонтировал даже те зачатки белорусской государственности, которые «проклевывались» к моменту его избрания президентом. Он лишил Беларусь практически всего – герба, флага, языка, исторической памяти, парламентаризма, экономических перспектив. Он так и оставил свою страну переименованной советской республикой, доминионом Кремля – в этом смысле Беларусь ничем не отличается от Чувашии или Калмыкии, а с Чечней с точки зрения суверенитета и сравниться не может. Иногда мне кажется, что не может сравниться даже с Татарстаном, где совершенно другое отношение к своему языку, исторической памяти, символике, экономическим переменам. Кучма в должности главы государства пробыл ровно столько, сколько ему позволила украинская Конституция. И уже в этом отличие между ним и белорусским узурпатором, переписывающим законы под себя. Но еще одно важное отличие – что президент Украины старался защитить собственные интересы и интересы новорожденных украинских олигархов – что отнюдь не всегда совпадало с интересами Кремля. В результате все еще советская, но уже олигархическая Украина смогла накопить тот запас прочности, который позволил ей пережить и прогнать нашего «настоящего Лукашенко», безумного Януковича. Кучма не смог – да и не пытался – лишить украинский народ того, чего лишил Лукашенко белорусов. Он не покушался на символику, парламентаризм, историческую память украинцев. Разница между "совком" и олигархией оказалась разительной – и спасительной для будущего.

Пенсионер Леонид Кучма, вне всякого сомнения, войдет в учебники истории Украины. Будущие авторы этих учебников напишут о нем немало жестких и справедливых слов – но не смогут не упомянуть и о закономерностях, о которых я писал в этом тексте.

Правитель Александр Лукашенко войдет в учебники истории Беларуси только в случае, если эти учебники вообще будут.

**Виталий Портников**
**NEWSru.ua**

ЗДАРЭННІ

# У САКОЛЬНІКАХ ЗГАРЭЎ МУЖЧЫНА

**20 сьнежня а 18.42 у вёсцы Сакольнікі Віцебскага раёну загарэўся дом, які належыў пяцідзесяці сямігадовай пэнсіянэрцы.**

На месцы трагедыі ратаўнікі МНС знайшлі цела брата гаспадыні. У выніку пажару агнём пашкоджаны дах, столевае пакрыцьцё, маёмасьць. Прычына пажару высьвятляецца.

**Ян Сведка**

ЭКАНОМІКА

# ВІЦЕБСКАЯ ГЭС ПАЧАЛА ДАВАЦЬ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ

**Першую электраэнергію атрымалі на Віцебскай ГЭС, станцыя працуе ў тэставым рэжыме. Пра гэта паведаміў журналістам намеснік генеральнага дырэктара па капітальным будаўніцтве РУП «Віцебскэнерга» Юрый Міцькавец, перадае БелТА.**

«Практычна ўсе працы па будаўніцтве гідравузла завершаныя, фактычна сканаў І мантаж абсталявання, вядзецца Яго наладка. У ходзе пусканаладачных работ 1 снежнага быў уключаны ў працу выдачы электраэнергіі першага гідраагрэгата, 7 снежнага запушчаны другі, 14 снежнага плануецца ўключэнне ў сетку трэцяга гідраагрэгата, а затым чацвёртага. Такім чынам фактычна будаўніцтва аб'екта выходзіць на фінішную прамую, і станцыя працуе ў тэставым рэжыме выдачы электраэнергііў сетку беларускай энергасістэмы », - сказаў Міцькавец.

Кантракт на будаўніцтва гідравузла Віцебскай ГЭС заключацца з Кітайскай нацыянальнай карпарацыяй па электраабсталяванні (CNEEC). Устаноўленая магутнасць Віцебскай ГЭС - 40 МВт (4 гідратурбіны па 10 Мвт).

Гадавая эканомія паліва па РУП «Віцебскэнерга» складзе - 42,6 тыс. т. умоўнага паліва, Або $ 11,56 млн.

**Ян Сведка**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

# ГАРАЖ СПЛЫЎ Ў ВІЦЕБСКІ РАЁН

**Жыхар Віцебска падарыў зяцю скрадзены металічны гараж.**

Зачыняючы дзверы гаража на засаўку, віцебскі пенсіянер думаў, што надзейна абараніў сваю маёмасць ад злодзеяў. Аднак, праз некаторы час, яго чакаўпа-сапраўднамунечаканы і непрыемны сюрпрыз. Замок, як і дзверы, і, уласна, сам гараж літаральна выпарыліся.

Да канца не верачы сваім вачам, мужчына звярнуўся па дапамогу ў міліцыю. Вопытныя супрацоўнікі Першамайскага РАУС за сваю службу пабачылі многае, але гэтая гісторыя нават у іх выклікала здзіўленне. Пагаршалася сітуацыя і тым фактам, што пацярпелы не наведваўся ў свае ўладанні аж цэлых 8 месяцаў, а таму дакладную дату крадзяжу высветліць было немагчыма. Але ставіць крыж на гэтай справе міліцыянты не збіраліся.

На працягу двух тыдняў усе героі гэтай гісторыі былі расстаўленыя па месцах. Як высветлілася, жалезны гараж спадабаўся 67-гадоваму Віцебляніну. Прычым, пабудова была патрэбна яму ў якасці падарунка зяцю. Менавіта пераследуючы высакародную мэту, мужчына ноччу на пагрузчыку звёз гараж у бок Віцебскага раёна.

Шчодраму прэзент з боку сваяка новы ўладальнік гаража і ўзрадаваўся, і здзівіўся. Аднак, словы цесця аб тым, што з паходжаннем гаража усё ў парадку супакоілі сумленне і нервы. Зрэшты, доўга радавацца новай пабудове не прыйшлося, за ёй, як і за цесцем прыйшлі супрацоўнікі міліцыі. У дачыненні да злодзея распачалі крымінальную справу, ну, а сам гараж вярнулі законнаму ўладальніку.

**Ян Сведка**





25 ГАДОЎ СНД

# БЕЛАВЕЖСКІЯ ПАГАДНЕННІ — НАЙЛЕПШЫ ПАДАРУНАК ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Роўна 25 гадоў таму 8 снежня 1991 года Беларусь атрымала нечаканы калядны падарунак, якім пакуль так і не здолела напоўніцу скарыстацца.**

**Незапланаваная незалежнасць**

Праз шмат гадоў, калі я стаў журналістам і неаднаразова сустракаўся, гутарыў са Станіславам Шушкевічам, у яго расповедах пра снежань 1991-га я рэгулярна чуў адно і тое ж: «Мы ехалі ў Віскулі зусім па іншай падставе, у нас і ў думках не было распускаць СССР, ствараць СНД».

І на самай справе, давайце паглядзім на храналогію падзей. 14 лістапада 1991-га кіраўнікі сямі з 12-ці саюзных рэспублік (Расія, Беларусь, Казахстан, Кіргізія, Таджыкістан, Туркменія, Узбекістан) і прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў заявілі пра сумесныя планы скласці дамову аб стварэнні ССД — Садружнасці Суверэнных Дзяржаў, якая павінна была прыйсці на змену СССР. Падпісанне новай «саюзнай дамовы» было прызначана на 9 снежня. Чакалі згоды з боку Украіны.

Аднак 1 снежня ва Украіне адбыўся рэферэндум, на якім народ большасцю падтрымаў Акт абвяшчэння незалежнасці Украіны ад 24 жніўня 1991-га. Барыс Ельцын адразу ж зрабіў заяву аб прызнанні незалежнасці Украіны, аб намеры ўсталяваць з ёй дыпламатычныя стасункі і скласці ўсёабдымную двухбаковую дамову.

4 снежня «Незалежная газета» са спасылкай на прэс-сакратара прэзідэнта РСФСР паведаміла, што Барыс Ельцын 6 снежня адпраўляецца ў Мінск. «Прэсу расійскі лідар супраць звычаю браць не збіраецца, таму што плануе акрамя афіцыйных таксама неафіцыйныя перамовы. У гэты ж час, як стала вядома з пэўных крыніц, у Мінск прыедзе і прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук», — гаварылася ў артыкуле.

5 снежня Ельцын сустрэўся з Гарбачовым для абмеркавання перспектыў ССД у сітуацыі, калі народ Украіны настойвае на яе незалежнасці. Пасля сустрэчы ён заявіў журналістам, што «без Украіны саюзная дамова губляе ўсякі сэнс».

Пазней Станіслаў Шушкевіч так апісваў тое, што адбывалася: «Мы (Ельцын, Краўчук, Шушкевіч і прыбылыя з імі асобы) спаткаліся 7 снежня 1991 года ў Віскулях, каб абгаварыць пытанні паставак нафты і газу на Украіну і ў Беларусь». Па ўспамінах Шушкевіча, «нават збіраючыся ў Белавежскай пушчы па маім запрашэнні, мы першапачаткова не мелі намеру прымаць рашэнне аб выхадзе з СССР. Такіх нарыхтовак не было ні ў мяне і нашай дэлегацыі, ні, думаю, у іншых таксама». Трохі інакш апісваў становішча Леанід Краўчук: «Тэма спачатку была названая так: прыняць нейкую дэкларацыю або заяву наконт таго, што новагароўскі працэс зайшоў у тупік і што нам трэба шукаць нейкія новыя падыходы, рашэнні. <…> Мы пачалі рыхтаваць дакумент і пераканаліся, што проста дэкларацыяй, як першапачаткова меркавалася, не абысціся».

Вячаслаў Кебіч, які ў той час узначальваў беларускі ўрад, сцвярджае, што ініцыятарам Белавежскіх дамоваў выступіла расійская дэлегацыя, а само падпісанне было спантанным. Па яго словах, «усё гэта ведаў адзін Ельцын». Пры гэтым і Кебіч таксама ўпэўнены, што «ўся гэтая паездка задумвалася не з мэтай падпісання гэтай дамовы (аб распадзе СССР)», бо ні сам Кебіч, «ні Шушкевіч, ні Краўчук, ні Фокін з украінскага боку не ведалі, што будзе падрыхтаваны і падпісаны такі дакумент». Аказалася, што «расійская дэлегацыя з Шахраем, Шохіным, Бурбулісам прыехала толькі з папярэднім планам: калі справа будзе выгараць, калі будзе згода з боку Украіны, то можна будзе падпісаць дакумент». Кебіч растлумачыў, што расійскаму боку патрабавалася згода Украіны з-за таго, што «кантакт з Шушкевічам у Ельцына быў, а вось з Краўчуком у Ельцына скlаліся нацягнутыя адносіны».

З усіх гэтых апісанняў падзей, што адбываліся ў тым снежні, добра бачныя некалькі важных момантаў.

**Па-першае,** больш-менш выразнага плану дзеянняў не было ні ў кого. Па сутнасці, усе дзейнічалі па сітуацыі, ва ўмовах хаосу.

**Па-другое,** усе ўдзельнікі тых падзей разумелі, што Савецкі Саюз скончыўся, — але не ведалі, як гэта юрыдычна афарміць. Проста дэнансаваць дамову 1922 года было нельга — саюзныя структуры, найперш сілавыя, яшчэ існавалі не толькі фармальна, так што ўзнікала вялікая рызыка грамадзянскага канфлікту. Дый простыя грамадзяне хоць і галасавалі за незалежнасць, псіхалагічна яшчэ адчувалі сябе грамадзянамі СССР. І было складана прадказаць, чый бок яны зоймуць, калі пачнецца сур'ёзнае супрацьстаянне.

СНД у той момант з'явілася як свайго кшталту «дэмпфер», закліканы змякчыць удар, шок ад распаду СССР. Інакш кажучы, дзякуючы СНД у той момант распад СССР выглядаў не як аднамомантная падзея, а як працэс трансфармацыі Саюза ў нейкае іншае аб'яднанне рэспублік.

**Для даведкі:**

8 снежня 1991 года вышэйшыя службовыя асобы і кіраўнікі ўрадаў трох саюзных рэспублік: Барыс Ельцын і Генадзь Бурбуліс (РСФСР), Станіслаў Шушкевіч і Вячаслаў Кебіч (БССР), Леанід Краўчук і Вітольд Фокін (Украіна) падпісалі так званае Белавежскае пагадненне.

Прэамбула дакумента канстатавала, што «Саюз ССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне». Артыкул 1-ы абвяшчаў: «Высокія дагаворныя бакі ўтвараюць Садружнасць Незалежных Дзяржаў» (СНД).

Пагадненне заяўляла пра імкненне развіваць супрацоўніцтва ў палітычнай, эканамічнай, гуманітарнай, культурнай і іншых галінах. Артыкул 14-ы вызначаў Мінск «афіцыйным месцам знаходжання каардынацыйных органаў садружнасці».

10 нежня — Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў Белавежскія пагадненні.

*(скарочана)*

**Дзяніс Лаўнікевіч**
**"Новы час"**




ПРАЦОЎНАЯ МІГРАЦЫЯ

# «КОГДА ПОЛУЧИЛА ПЕРВУЮ ЗАРПЛАТУ, ПЛАКАЛА»

**Акушер-гинеколог из Бреста рассказывает о том, как рожают африканские женщины и что заставило ее переехать в другое полушарие планеты — в Анголу**

— Я хотела быть кинозвездой. Пошла в художественно-театральное училище в Минске, но на экзаменах поняла, что это не мое. Не могу так перестраиваться, превращаться из одного человека в другого. Так поступила в медучилище, потом закончила медуниверситет, а в 45 лет снова пошла учиться в клиническую ординатуру, чтобы получить высшую категорию.

Елена Викторович, акушер-гинеколог из Бреста, и правда хорошо бы смотрелась в кино — улыбчивая блондинка с сияющими голубыми глазами, очень красивая женщина. В Беларуси она за 20 лет работы прошла путь от сельского врача до районного акушера-гинеколога.

Правда, после 20 лет врачебной практики в белорусских медучреждениях доктор поняла, что одним энтузиазмом сыт не будешь. Хотелось, чтобы любовь к работе соответственно вознаграждалась.

**ГОД РАБОТЫ В АФРИКЕ — ЭТО 10 ЛЕТ РАБОТЫ ДОМА**

— У меня было три работы: в роддоме Бреста, в железнодорожной больнице и в Центре профилактики СПИДа — вела прием и делала УЗИ. Я тогда купила квартиру под огромные проценты, и так получилось, что должна была выплачивать 500 долларов в месяц — весь свой заработок. Старшая дочь университет закончила, а младшую нужно было еще выучить. С мужем в разводе. Еще и ремонт надо сделать. Материальный вопрос встал очень остро, — вспоминает врач.

Елена Викторович заинтересовалась работой за границей. Поначалу, говорит, ей было просто любопытно узнать, как лечат в других странах. А потом поняла, что это шанс спасти семью от финансового краха. Знакомые рекомендовали поехать в Анголу, сказали, там уже работают врачи из Украины, России и Беларуси. Трудоустройством медиков занимается российская фирма. Энергичная врач рискнула: связалась с этой фирмой и через полгода после того, как узнала о такой возможности, уехала в Африку. Уже семь лет — с 2009 года — доктор работает в клинике горнодобывающей компании «Катока». Это предприятие — один из мировых лидеров по производству алмазов. Оно находится в тысяче километров от Луанды, столицы Анголы.

— Ожидания от переезда на другой край света оправдались?

— Я приехала в Анголу 1 декабря, а 25-го уже дали декабрьскую зарплату. Я ничего еще не делала: днем ходила по кабинетам, ночами учила португальский. Мне дали три месяца на изучение языка и подтверждение диплома. В Бресте все, что зарабатывала, я отдавала на кредит. Здесь мне выплатили чистый оклад врача — и он оказался в пять раз больше моего белорусского заработка на трех работах. Я стала считать: год работы в Анголе — это 10 лет работы дома, два года — 20 лет... Я так плакала! Мне так за родину стало обидно!

**«НЕ ТРОГАЙТЕ МОЕГО РЕБЕНКА»**

— Белорусские беременные отличаются от ангольских? Как рожают в Африке?

— Роды редко проходят в клинике, там в 80% случаев практикуют роды на дому. Им дешевле вызвать врача, чем платить за клинику. Рожают они самостоятельно, мужчин с того времени, как начинаются схватки, нет. Они уходят за деревню, в саванну — нет их! И только когда они услышат пение и пляски, приходят. Значит, родился ребенок. И еще у них так: солнце не должно дважды заходить над женщиной, которая в родах. Если проходят сутки, а женщина не родила — вызывают доктора. Вот я и езжу на ЧП и катастрофы, — смеется врач. — Женщина просит не дотрагиваться до ребенка, если я просто присутствую при родах. Она сама перевязывает, перегрызает пуповину, берет ребенка, кладет его на живот... «Это мой ребенок, мои бактерии — не трогайте его». Потом убрала все за собой, встала на колени, поцеловала мне ноги и ушла — так у них принято. Я все время задумываюсь: ведь точно так же наши прабабушки рожали! И никто не теряет сознание, не кричит от боли. Ну да, стонут, как все женщины, но истерик, как у нас в роддомах, не бывает.

И еще у них так принято: если женщина беременеет, они с мужем не живут половой жизнью, это запрещено и религией, и обычаями. Мужчина рядышком строит новую хижину, берет себе новую жену... Так и живут. Сколько сможешь женщин обеспечить, столько берешь. Они христиане, но у них разрешено многоженство. Много лет была война, она забрала мужчин. Ангolane знают, что им надо расплодиться и восполнить население.

— Как там развита медицина?

— Я работаю в клинике, которая обслуживает только семьи сотрудников «Катоки». В ней самое современное оборудование, медикаменты совсем другие — европейские, бразильские. В Луанде есть клиники от красного креста, но они, конечно, не так обеспечены.

В Анголе я заметила, что там действенны простейшие антибиотики! Там никто не

*(працяг на стар. 4)*

ПРАЦОЎНАЯ МІГРАЦЫЯ

*(пачатак на стар. №3)*

лечит простую инфекцию по 10 — 15 дней. Приходит больной, ты даешь ему максимальную терапевтическую дозу сегодня, завтра — поддерживающую, а послезавтра он здоров. У меня есть больные со СПИДом, с туберкулезом, гепатитом — после 16 лет войны в Анголе много социальных болезней. Только там я впервые за свою врачебную практику увидела прямое переливание крови. И еще там нет санстанции! Их никто не контролирует, но после операций ни у кого нет абсцессов.

**ТАМ ПОЗИТИВНО МЫСЛЯТ**

— Как вас приняли в чужой стране? Вы быстро привыкли к другой культуре?

— Анголане называют меня ангелом — я белая, да еще и светловолосая. Там очень уважительное отношение к врачам. Меня даже в Луанде узнают. Приезжаю в банк, а они: «Доторэ, доторэ!» («Доктор, доктор». — Ред.).

Что было удивительно — там ничего не откладывают впрок. Закатки, как у нас, в Анголе не делают. Захотелось — пошли в саванну, набрали фруктов, поели и забыли. Завтра опять сходим. Может, на километр дальше пройдемся, зато ходить полезно для здоровья. Там позитивно мыслят!

Еще мне понравилось, как они относятся к смерти близких. По ангольским законам дается 8 дней отпуска только для того, чтобы человек вышел из стресса, не плакал на работе, а улыбался и занимался своим делом.

В Анголе не просто солнечно, там солнечные люди. Они всегда улыбаются! Этому я у них научилась. Там обязательно нужно обнимашки устраивать — два раза наклоняться щечками друг к другу. Все так делают, знакомые и незнакомые. За день каждый здоровается три раза. «Бон дие» — это значит пожелать доброго утра, «буа тарде» — доброго дня, «буа нойте» — доброй ночи. Невозможно не улыбаться, когда здороваешься третий раз за день!

— По дому не скучаете?

— Я пару раз в год приезжаю домой. Со всеми повидалась — и хочется обратно! Тут все несчастные, плачутся, смотрят в землю, все серое... Там у меня другая жизнь!

Очень много времени появилось для самообразования — мне теперь доступны португальские сайты и бразильская медицина. Я столько всего изучила! Бегаю, хожу в тренажерный зал, участвую во всех конкурсах в клинике. Дочкам каждый день присылаю фотографии или показываю в «скайпе», как я живу. Смеются, что я то танцую, то пою, а иногда говорят, мол, покажи нам солнце, у нас тут плохая погода. Я там живу такой полной жизнью — мне времени в сутках не хватает! Если и есть рай на земле, то он там, в Африке.

**Оксана БРОВАЧ**
**www.kp.by**

БЕЛАРУСЬ – РАСЕЯ

# ІХ НАВУЧАЦЬ «ПРАВІЛЬНАЙ» ДРУЖБЕ З РАСЕЯЙ

**Дыскусія ў беларускіх мэдыях і сацыяльных сетках з нагоды затрыманьня прыхільнікаў «рускага сьвету», блогераў расейскіх шавіністычных сайтаў Юрыя Паўлаўца, Дзьмітрыя Алімкіна і Сяргея Шыптэнкі найбольш зьвялася да пытаньня, як незалежнае грамадзтва павінна да гэтага ставіцца. Я ж паспрабую пагаварыць трохі на іншую тэму. Што за гэтым стаіць?**

Да гэтага часу ўлады рэпрэсавалі толькі беларускіх нацыяналістаў. Чаму раптам беларусафобія, адмаўленьне беларускай дзяржаўнасьці і нацыі прызнаныя крымінальным злачынствам? Навошта гэта патрэбна Лукашэнку?

Сапраўды, сытуацыя трохі дзіўная і парадаксальная. Вось сілавікі і дзяржаўныя мэдыі закідаюць арыштаваным калюмністам тое, што яны дрэнна, крытычна ставяцца да беларускай незалежнасьці і дзяржаўнасьці, адмаўляюць яе.

Але пікантнасьць сытуацыі ў тым, што ў афіцыйным беларускім дыскурсе распад Савецкага Саюзу, у выніку якога ўзьнікла незалежная Беларусь, таксама абвяшчаецца катастрофай. Аляксандар Лукашэнка шмат разоў выказваў жаль аб развале СССР, называў гэта злачынствам, выхваляўся, што галасаваў супраць Белавескіх пагадненьняў (што няпраўда). Не далей як 30 верасьня 2016 году, выступаючы перад студэнтамі Пэкінскага ўнівэрсытэту, беларускі лідэр заявіў: «Я адназначна разглядаю распад Савецкага Саюзу як катастрофу, якая мела і мае нэгатыўныя наступствы ва ўсім сьвеце. Нічога добрага ад распаду мы не атрымалі». Значыць, зьяўленьне незалежнай Беларусі — гэта нядобра?

Ці вось арыштаваных абвінавачваюць у тым, што яны ставяць пад сумнеў існаваньне беларускай нацыі. Зноў зьвернемся да першакрыніцы. Лукашэнка ня раз сьцьвярджаў, што «беларусы — гэта рускія са знакам якасьці», што «беларусы і рускія — адзін народ». Нібыта беларускай нацыі і няма.

Ці вось гэтым блогерам закідаюць, што яны дрэнна ставіліся да беларускай мовы. Але Аляксандар Лукашэнка на пачатку свайго кіраваньня казаў нешта падобнае. Выступаючы 1 сьнежня 1994 году на сэсіі Гомельскага гарсавету, ён выдаў такую рэпліку: «Людзі, якія гавораць па-беларуску, ня могуць рабіць нічога, акрамя як размаўляць на беларускай мове, таму што па-беларуску нельга выказаць нечага вялікага. Беларуская мова — бедная мова. У сьвеце існуюць толькі дзьве вялікія мовы — руская і ангельская». («Народная газета», 1 лютага 1995 г.)

Так што арыштаваным блогерам ёсьць на каго спасылацца. Мяркую, што іх адвакаты скарыстаюцца гэтым напоўніцу.

Выказваюцца вэрсіі, што гэтыя арышты патрэбныя Лукашэнку як яшчэ адзін аргумэнт у торгу з Расеяй. Маўляў, мы вызваляем прарасейскіх прапагандыстаў, а вы нам крэдыт, зьніжкі на газ, аднаўленьне паставак нафты ў ранейшым аб'ёме. Магчыма... Але ці стане Расея таргавацца па гэтым пытаньні? Ці захоча яна іх абараняць? Ці ўяўляюць яны для Масквы каштоўнасьць, каб за іх плаціць? Гэта для Захаду палітвязьні — справа прынцыпу, бо правы чалавека — прыярытэтная каштоўнасьць. А ў сёньняшняй Расеі дамінуюць старадаўнія ўяўленьні, што чалавек — нішто перад тварам дзяржавы, уладар можа рабіць са сваімі паддаными што захоча. Якія там яшчэ правы чалавека?

На мой пагляд, справа тут, як звычайна ў Беларусі, ва ўяўленьнях, псыхалёгіі аднаго чалавека. Праблема ў тым, што арыштаваныя блогеры ня проста ўхвалялі «русский мир». Такіх дзеячаў у краіне вельмі шмат. На беларускіх тэлеканалах адэпты «русского мира» (Дзермант, Плашчынскі, Баравік, Бяляеў, Ялфімаў, Зелянкоўскі, Крыштаповіч) не вылазяць з розных ток-шоў. Але пры гэтым яны хваляць Лукашэнку і дэманструюць вернападданасьць.

А вось арыштаваныя калюмністы якраз абвінавачвалі Лукашэнку ў русафобіі, патураньні беларускаму нацыяналізму, імкненьні адарваць Беларусь ад Расеі, ісьці па шляху Украіны на Захад.

І вось менавіта гэта Лукашэнка ўспрымае вельмі хваравіта. Здаўна ён вельмі ўважліва сочыць, што кажуць пра яго расейскія мэдыі. Кіраўнік Беларусі працьму разоў уступаў у палеміку, канфлікт са СМІ РФ, высылаў маскоўскіх журналістаў. Вось і выступаючы перад прадстаўнікамі расейскіх рэгіянальных мэдыяў 17 лістапада, Лукашэнка абураўся, што тамтэйшыя рэсурсы пішуць пра яго няпраўду, нягледзячы на праўду, няпраўдзівыя.

Але адна справа, калі яго бэсьцяць расейскія журналісты. І зусім іншая сытуацыя, калі ў нацыяналізьме яго вінавацяць самі беларускія грамадзяне, якія жывуць у Беларусі. Гэта ўспрымаецца як данос Крамлю на здрадніцтва Лукашэнкі. Вось яна, прарасейская «пятая калёна» ў чыстым выглядзе.

Справа ў тым, што Лукашэнка ад самага пачатку свайго кіраваньня ўстанавіў сваю манаполію на ўсю сфэру беларуска-расейскіх дачыненьняў, на дружбу з Расеяй. Усе спробы іншых палітычных суб'ектаў гуляць на гэтым полі жорстка перапыняліся. Нягледзячы на ўсю кампанію інтэграцыі з Расеяй, якая цягнецца чвэрць стагодзьдзя, у Беларусі няма русафільскіх, панславянскіх партыяў, якія б выступалі за большую ступень інтэграцыі з РФ, чым прапануе афіцыйны Менск. Праэўрапейскія ёсьць, а прарасейскіх няма. Ліквідавана партыя «Славянскі сабор „Белая Русь"». Жорстка спынена спроба Сяргея Касьцяна ў 2014 годзе стварыць партыю «Белорусский славянский комитет». Зьніклі аналітычныя структуры, якія тут шчыравалі ў 1990-я гады («Славянская академия»). Былі закрытыя славянафільскія газэты («Славянский набат» ды інш.)

Лукашэнка заўсёды больш хваравіта ўспрымаў сытуацыю, калі беларускія апазыцыянэры атрымлівалі палітычную і матэрыяльную падтрымку з Расеі, хоць на аналягічную падтрымку з Захаду глядзеў больш паблажліва. Казулін і нябожчык Марыніч, западозраныя ў сувязях з Расеяй (Марыніч быў затрыманы зь вялікай сумай расейскіх грошай), атрымалі па пяць гадоў зьняволеньня. І, зьвярніце ўвагу, дзяржаўныя мэдыі цяпер усяляк падкрэсьліваюць, што Юрый Паўлавец, Дзьмітрый Алімкін і Сяргей Шыптэнка атрымлівалі ганарары ад расейскіх інтэрнэт-рэсурсаў. То бок прадавалі радзіму за расейскія рублі.

І вось гэтыя хлопцы паспрабавалі разбурыць лукашэнкаўскую манаполію. За што і атрымалі.

Глядзіце, падкім соўсам падаецца гэтая справа дзяржаўнымі мэдыямі. Маўляў, гэтыя арышты скіраваныя ня супраць Расеі, а наадварот, закліканы ўмацаваць дружбу паміж Беларусьсю і РФ. Міністар інфармацыі Лілія Ананіч запэўнівае, што «заказчыкі і аўтары такіх артыкулаў спрабуюць пасеяць варожасьць паміж нашымі краінамі і народамі..., убіць клін у нашы глыбокія сяброўскія дачыненьні, у працэс будаўніцтва Саюзнай дзяржавы».

Штоёсьць сапраўдная дружба з Расеяй у гэтай краіне (як, дарэчы, і ўсё іншае), вызначае адзін чалавек. Хто гэтага не зразумеў, тым нагадалі. У даволі жорсткай форме.

**Валер Карбалевіч**
***"Радыё Свабода"***

НАША ЎЛАДА

# ЧТО ОТКРЫЛ ЛУКАШЕНКО В НЫНЕШНЕМ ГОДУ

**И почему этому стоит скорее огорчаться, чем радоваться.**

«Салідарнасць» вспоминает, что открывал глава Беларуси в уходящем году. На протяжении всего года Александр Лукашенко традиционно старался как можно чаще участвовать в различных церемониях с перерезанием красной ленточки.

Последний пример — открытие новых участков МКАД-2, которые позволят белорусским автомобилистам быстрее и без пробок добираться до места назначения. При этом 72 километра новой кольцевой уже были построены ранее, а сейчас к ним добавилось около 160 километров дороги.

До этого, в ноябре, глава государства открыл новый ледовый дворец в Шклове, на который было потрачено около 15 миллионов долларов.

— Я знаю, что наше с вами мероприятие в стране воспримут неоднозначно. Как это у нас часто бывает, кто-то будет шептать за углом, кто-то на кухне, что лучше бы эти деньги взяли, разделили, по кусочку бы раздали, не время строить это все. Ничего подобного. Помните, что это здоровье людей, — сказал тогда он.

В этом же месяце совместно с президентом Турции Реджепом Эрдоганом руководитель страны открыл Соборную мечеть Минска, которую на протяжении многих лет призывали построить белорусские мусульмане.

Ранее Александр Лукашенко принимал участие в открытии дворца спорта «Уручье», который также реставрировался течение продолжительного времени и наконец был сдан в эксплуатацию.

Кроме этого глава Беларуси открывал уже приевшиеся хоккейные турниры, байкерский фестиваль, «Славянский базар в Витебске» и другие мероприятия, чтобы хоть как-то насытить президентский публичный график.

Однако в нем, в отличие от прошлых лет, не нашлось места, к примеру, открытию новых предприятий, запуску современных производственных линий, новых логистических центров — то есть, всему, что хоть немного помогло бы белорусской экономике выбраться из кризиса. Почти все открытые в присутствии Лукашенко объекты не были построены в последнее время, а достраивались скорее по инерции и из последних сил.

Перечень «открытий» уходящего года, к сожалению, отражает застой белорусской экономики и подчеркивает стремление властей действовать старыми методами, закапывая деньги в проекты, которые никогда не окупятся.

**Павел Рос**
**gazetaby.com**

Заснавальнік і рэдактар: Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

Адрас рэдакцыі: г. Віцебск, вул. 1-я Сенненская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

Падпісана да друку 28.12.2016 у 18.10
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.